Цана асобнага № 40 кап.

# Вольная Беларусь

ТЫДНЁВІК
палітычны і літэратурны

Ніхай жыве незалежная Беларусь!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На год . . 12 р. —
На поўгода . . 7 р. —
На 1 месяц . 1 р. 50 к.

Перамена адрэсу 50 к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
г. Менск, Захараўская, 18.

ГОД ВЫДАННЯ II.

№ 29. 18-го жніўня 1918 г. № 29.

## Спогадзь.

**(Байка).**

Што-ж, Мікалай быў бедны чалавек
І з гора нам яго падшкелівацъ ні след;
Хутчэй пашкадавацъ, што церпіць гэткі зьдзек...
Ні праўда-ж, мой сусед?

Падцяла Мікалая і гарасьці нагнала
Хвароба жончына. А потым—дзеці зноў
У ложку палеглі і—рукі адабрало!
Хоць быў ен, Мікалай, як вол, маўляў, здароў,—
Здароўя тут замала!
Вазіць павінен быў ен к жонцы дахтароў,
А дзетак даглядацъ—то мусіў узяць кабету,
І, падаўшы за тым і дзень і ноч да сьвету,
Экспэнсаў шмат рабіў, і скарб да ніткі зьвеў.
Ці-ж трэба успамінаць, што усе закінуў справы,
А з імі разам, бач, забыўся і аб суд?
Ігнат-жа скеміў усе—ой, быў на штукі жвавы!—
Дый... тут, як тут!
Двух лаўнікаў зладзіў, падсунуў «куку у руку»,
Падсудку справіў баль, а віжа напаіў.
І, уpэўніўшы сабе у спосаб той заруку,
Трах—скаргу у суд! І процэс аднявіў.
А ен ужо даўно цягаўся з Мікалаем:
Хацеў, бач, у яго поўхаты адабрацъ
Па праву земскаму, ці нейкім там звычаям,—
Хай іх ні знаць!
Хоць ведаў Мікалай, як трэ' даводзіць правы
І добры меў язык яго умоцаваны,—
Што-ж?—гол як мыш! А гэта сьмерць для справы.
І... процэс быў прайграны.
— Цяжкая страта!
Прыйшлося адступіць поўхаты для Ігната,
Упіснуўшы і жонку і дзетак у куток...
— «А мой каток,—
Ільсьціцца да яго, увабраўшыся, Ігнат:
„Ах, як я рад,
„Што, разам жывучы, часамі памагу!
„Ці-ж мо' табе здаецца, што я ні спачуваю
„Тваей бядзе? Я гэтак ні магу,
„За лішне мяккае, браток, я сэрцо маю!
„Як будзе трэба што—бяры і ні прасі,—
„Хіба-ж ні аддасі?"
Ты думаеш, Ігнат
І зробіў акурат?
Ого! Дык ты ні знаў Ігната.
Заходзіць ен праз пару дзен у сьвято:
—„Ты ведаеш, каток, аб чым хачу прасіць?
„І грэх, і сьмех, і дзіў, а ні магу знасіць
„Як стогбуць хворыя. Дык толькі ты ні злуй,
„Бо я к табе прыйшоў па-брацку і с прыязьню:
„На час у лазьню
„Ты жонку палажы і дзетак улякуй.
„І цепла будзе ім і поўны там спакой..."
Ад прапазыцыі такой
Хоць Мікалай спачатку бараніўся,—
Ні вытрымаў—згадзіўся!
Прайшло так пару дзен. І зноў Ігнат на вочы,
І просьбу новую услышаў Мікалай:
—„Асэсар да мяне прыехаць у госьці хочэ,—
„Падзецъ ні маю гдзе. Зьмілуйся, вызваляй!
„Як небудзь з жонкаю—дзяньком найбольей пару,
„Пакуль гасьціціме,—сяк так перажывеш.
„Ну, зробіш так? Ну, як? зрабі ахвяру!
„З мяне ты вінніка дасконнаго знайдзеш..."

. . . . . . . . . . . . . .

З манаткамі усіма і кодлам перабраўся
Асэсар праз два дні. Навез рачэй па двор.
А потым... дом яму, ніначай, спадабаўся,
Жыве сабе й жыве і, нават, ані хвор!
Прыйшла чарга хадзіць і Мікалаю...
Ідзець да Ігнася, дый кажа: «Мой сусед!
„Твой госьць хацеў пражыць...»—«А знаю, браце, знаю!
„Маўчы, мой сьвет!
„Я сам хацеў ісьці к табе па просьбі госьця:
—„Спыні ты дзетачак, каб так ні рагаталі.
„Мітрэжаць сон яны, трывожаць ягамосьця..."
А што, пытаеш, далей?
Ігнат з асэсарам у хаці распанелі
А Мікалай з дзяцьмі—згалелі.
Ну, ведама, яго ні легка і судзіць:
З нядоляй—што-ж рабіць?!

**Алесь Гарун.**



## Што трэба ведаць кожнаму беларусу?

(Глядзі № 28).

**VIII. Патрыотычныя павіннасьці.**

*Што такое патрыотызм?*

Патрыотызм—гэта шчырая любоў да свайго роднаго народу і да свайго роднаго краю. А патрыот—гэта той чалавек, каторы старaецца дапамагчы свайму народу і працуе у гэтым кірунку з усіх сіл.

*Чаго мы хочэм для свае Бацькаўшчыны?*

Кожны з нас любіць Беларусь і хацеў-бы бачыць яе шчасьлівай. А гэта станецца тагды, як усе беларусы стануць сьвядомымі сынамі свайго народу і калі самі беларусы стануць гаспадарамі у сваей зямлі, калі над намі ніякія чужакі ні будуць панаваць. Дзеля гэтаго ні толькі самым трэба любіць Бацькаўшчыну і працаваць для яе дабра, але трэба яшчэ навучаць і прыхіляць да гэтаго усіх беларусаў, з якімі спатыкаешся, будзіць у іх гэтыя высокія добрыя пачуцці.

*Якая патрыотычная павіннасьць кожнаго беларуса?*

Сьвятая павіннасьць кожнаго беларуса заўседы і усюды прызнавацца да свайго народу, дбаць аб гонар свае нацыі ды пільна выпаўняць усе, што спрычыняецца да узмацавання і эдукацыі нашаго народу.

Дбайма-ж аб родны край, пільнуймася-ж сваіх павіннасьцяў перад ім! Стараймася, каб імя Беларус заўседы, у усіх народаў сустрэчалося с пашанай.

*Якім спосабам беларус можэ дбаць аб узмацаванне і эдукацыю свайго народу?*

Кожны чалавек павінен свой народ

чаму тавар марку на будову Бел. Нар. Дому.

Вось гэткім чынам створыцца капітал, с каторым можна будзе прыступіць да работы, а зважыушы тое, што Дом будзе даходным (аддача у наем салі, крам на ніжнім паверсе), можна будзе перад канцом будоулі зрабіць на яго рахунак пазыку.

**Ф. А.**

## Да паноу Рады Беларускае Рэчы Пасполітай.

Продкі нашы, як устанаулялі навуковыя заклады, напрыклад, — акадэміі у Вільні, чы у Полацку,—дык яны давалі акадэміям фундушы-маенткі на пажывенне іх профэсароу чы іх студэнтау. А як цяпер грошай у скарбі німа, а трэба устанауляць Акадэміі, дык я с такім чалобіцьцем зварачаюся да паноу Рады: чы ні будзе ласка паноу Рады выдаць такі закон, што на фундаванне унівэрсітэту у Менску у валадзенне і пажывенне унівэрсітэту на вечныя часы ахвяруецца якісь маентак з лясных скарбовых маетнасьцей. Як будзе ласка выдаць такі статут, дык і унівэрсітэт будзе.

Проф. **Даунар-Запольскі**.

28. VII. 1918 г.



## За справункамі.

Едзе с сваей бабай Петра Самасейка
Напрамкі у горад то ды се купіць,—
Трэба ужо-ткі неяк жонку раз паслухаць,
Мо' пакіне болей галаву дурыць...
Едуць... конь з няхоцькі ледзь сувае ногі,
Морду у ніз сьпусьціушы, ні бяжыць, ні йдзе.
Баба у палукошу сядзіць на саломе,
Як, казау, сарока у сваім гнязьдзе.
А Пятрук спахмурны неяк прымасціуся
На пярэдніх колах. Мулка хоць яму,
Але што ты зробіш? дае баба духу—
Грызе, злуе, лае, робе сьвет на цьму.
Спорка у іх с сабою цягнецца два тыдні.
Як іржа жалезо, або футро моль,
Пятрука з'едае жонка маладая;
Бедны усе церпіць, крые у сэрцы боль.
Ажаніуся—маеш!—знасі крыж да згону.
А аб што у іх спрэчка—проста адзін сьмех!
Спрау ей, кажэ, сукню, капялюш, пярсьценак;
Сукня без гарсэту, бач, вісіць як мех.
Грэбянеу ні маю, шпількі ані воднай,
За табою, кажэ, жыць я ні магу.
Ты усе скупішся, ты шкадуеш грошы,
Мяне маладзеньку маеш за слугу!

Во увесь час абое едуць і грызуцца,
А заеушысь крэпка, ні жалеюць слоу...
Раптам... во здарэнне!.. полукошык з бабай
С панарадку вовку сунууся далоу.
Рад Пятрук трафунку—павязло старому—
Хоць адну хвілінку будзе мець спакой;
Бытцам ні прыкмеціу, што прыгода стала,
Едзе, на'т ні гляне, што там стало з ей!
А ужо жонка з заду, бакі моцна зьбіушы,
Крычыць, свайго мужа уздагон заве:
«Стой, Пятрук, стрымайся, ці-ж ткі ужо аслеп ты?
Стой! ніхай ты здохні, ліхо галаве!»
А Пятрук удауся, назад на'т ні гляне,
Бытцым-то гамоне з жонкаю сваей:
«Ні зьвяртай увагі, хай крычыць хто хочэ—
Мы с табою, бабка, пасьпяшым скарэй.»

**Альбэрт Пауловіч.**

## С песьняу Тараса Шэучэнкі.

* * *

Мне аднакова усе, ці буду
Я на на Украіні жыць, ці не,
Ці хто згадае, ці забудзе
Мяне у сьнягу на чужыне,—
Аднакавюсінька усе мне.
У няволі вырас між чужымі,
Ды, ні аплаканы сваімі,
У няволі плачучы памру
І усе с сабою забяру,
Малога сьледу ні пакіну
На нашай слаунай Украіні,—
На нашай—ні свaей-зямлі.
Й ні пагаворыць бацька с сынам,
Ні скажэ сыну ен: *«Маліся,*
*Маліся, сыну,—за Украіну*
*Яго замучылі калісь».*
Мне аднакова усе, ці будзе
Той сын маліціся, ці не...
Ні аднакова-ж будзе мне,
Як Украіну злыя людзі
Прысьпяць, задушаць ды у агне
Яе, абкрадзеную, збудзяць...
Ох, то-ж ні аднакова мне!

**Крауцоу Макар.**

* * *

Заходзіць сонцо за горы,
Паклаліся цені на лесе;
Вяршына старой аборы
Пазалацілась на стрэсе.
Вось вецяр цеплы ад рэчкі
Несе пах з лесу жывіцы
І польных кветак, і грэчкі,
І мурматанне крыніцы.
Як ціха! Там, у патока
Кулік часамі засьвішчэ;
Толькі здалека, здалека
Шуміць із карчомкі ігрышчэ.
Знаць там гуляюць і рады,
Знаць вяселицца багата,
Гутараць старцы грамады
І скачуць хлопцы, дзяучата.
Чаму-ж па лесе, па полю,
Як воук, адзін я заусюды?
І плачу ціха на долю,
Поуны і смутку і нуды?
Ці ні такі я, як людзі?..
Чаму-ж грамады дзічуся?..
Ой, жаль мне уеуся у грудзі
Па табе, зорка—Ганnormal!
Дзеля багацтва—старому
Усе тваe красы дзяучы!..
Дзеля худобы—с сарому
Ні кажу людзям я вочы!..
Толькі між хвоі, бярозы
Бягуць па лесе у сваты.
Мой голас смутны і сьлезы.
Ганнуся, зорка мая ты!..

**Янка Лучына** (Няслухоускі).

*(З архіву Ромуальда Земкевіча).*

## Дажынкі.

Зжатае поле
Голо, як стэп.
Ржышчо наукола,
У копах хлеб.
Скачуць праз гоні
Коні з вазамі,—
Возюць сягоння
Копы да пана.
Дажынкі у пана,
Жнеі пяюць,—
Вянок убраны
Пану нясуць.
Панская ласка
Як мае быць:
Гарэлкі, каубаскі,
Піць, закусіць.
Жыто, пшаніцу
Змалоціць машынай;
Пасьля заграніцу
Зьвязе чужаніну.
І звонам празвоніць
Панска скарбніца.
У карты прагоніць
Правье й пратрэзавіцца.
І слава уьнясецца
На сьвет уьдзіулены,
Што пан, здаецца,
Спусьціу пяць мільенау.
А ты —небарачэ,
Сермяжная кроу!
Што смуцішся, браце,
Сьрод зжатых палеу?
І твае-ж поле
Голо, як стэп;
Ржышчо наоколо,
У копах хлеб.
Ледзьве праз гоні
Коні пауззуць;
Гониш тых коняу,—
Яны ні ідуць.
А як с поу-бядою
Свой хлеб зьвязеш ты,
Пасьля з лебядою
Зьясі да рэшты.
А пад Вялікадня,
Як хлеба ні хваце,—
Зубы—у скрыню,
Язык—на палаці.
І успомні, браце,
Гаротны аб тым,
Як твая праца
Узята чужым...
І вестка уьнясецца
На сьвет уьдзіулены:
Жывуць так, здаецца,
Дзесяць мільенау.
Жывуць без хлеба,—
Ці-ж гэтак трэба?

15 XII—1917 г. **Петра Маслоускі.**



**Рэдактар Я. Лёсік.**



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.